## ГІСТОРЫЯ БАЗА

*Працяг з 7й бачынкі*

колькасьць прысутных (на сходзе прыймала ўдзел усяго чатыры асобы: 1. Праф. Мікола Дарашэвіч, 2. Праф Янка Станкевіч, 3. Сп. Янка Ніхаёнак і 4. Інж. Мікола Гарошка) меў вельмі вялікае значэньне для гісторыі Эміграцыі да ЗША наагул.

Для атрыманьня права на прыезд да ЗША вымагалася, у першую чаргу мець паручыцеля (спонсара), які павінен загварантаваць працу й прымешчаньне для кожнага прыезджаючага да Амэрыкі. Напачатку справа парукі ды забесьпячэньня працай і кватэрай эмігрантаў-беларусаў была вельмі складанай, асабліва ў гэты пэрыяд часу, калі Амэрыка пасьля заканчэньня 2ой Сусьветнай вайны, пры пераходзе ваеннай індустрыі на іншую, прыватную, перажывала гаспадарча-эканамічны крызыс. У сувязі з гэтым, адчуваўся недахоп працы й вялікі недахоп прымешчаньняў, бо будаўніцтва прыватных дамоў падчас вайны далёка ня было задавальняючым. У сувязі з гэтым, сход пастанавіў рабіць пошукі прымешчаньняў для прыезджаючых беларусаў-эмігрантаў у недарагіх раёнах Ню Ёрку.

Ды ўжо хутка быў вырантаваны апартмэнт на 100й вуліцы Іст №325 ў Гарлеме.

На 100й вуліцы ў Гарлеме мела прытулак Галоўная Рада Беларускага Задзіночаньня. На 100ай вуліцы жыў Сакратар Задзіночаньня Сп. Янка Ніхаёнак, ды на 100ай вуліцы мелі свой першы прытулак усе маладыя беларускія эмігранты, якіх прывозілі з Ню Ёрскай прыстані іхныя, крыху старэйшыя, спонсары. Без памылкі, можна сказаць, што блізу ўся нашая эміграцыя, якая прыехала да Ню Ёрку, затрымлівалася ды жыла некаторы час на 100ай вуліцы.

Многія зь іх з прыемнасьцю успамінаюць пражыты час у Гарлеме на „Сотай", як найлепшы й найшчасьлівейшы пэрыяд свайго жыцьця. Мой знаёмы А. Р., які прабыў на Сотай вуліцы два тыдні, дзелячыся сваімі ўспамінамі сказаў: „Гарлэм гэта — не карантын, як некаторыя, жартуючы, называюць Сотую вуліцу; карантын мы ўсе прайшлі ў Нямеччыне ў лягэрох D. P."

*—Далей ў наступным нумары.*



*25-ы Сакавік у Ню Ёрку — 1951 год*

Нам трэба йсьці.

Я скрыта зьдзіўлёны ягоным захаваньням, але аддаюся ягонай волі. Ці варта зьдзіўляцца або крыўдзіцца? Ён пачаў гутарку з чароўным настроям, і з іншым захаваньням. Быццам ягоны сын, ці па працы ад яго залежны, трымаюся шчырай пашаны. — „Няхай гаворыць, мне будзе прыемна ўспамінаць сваё? Каля возера я ўхілюся яго"— падумаў я.

— Тое, што я раскажу вам, цяпер ня будзе дзівацкім. Я адчуваю: вы падумалі – ад-жа з дзіваком спаткаўся. А гэніі таксама дзівакі. У іх шмат дурнотаў, але іхныя дурноты любяць насьледваць, як усё іхнае гэніяльнае, з верай што яно вялікае, неўторнае...

— Навошта крыўдзіць сябе? — заўважаю я, але так каб толькі заўважыць.

— Ах нічога! Не находзьце ўва мне пагаблевасьць.

Я зноў азірнуў яго. Ён быў увесь у цепрасьці пагутарыць, пагутарыць пра сваё.

— Аднойчы, — пачаў ён, — у лазьні зьявіліся чэрці, сапраўдныя чэрці. Колькі іх было ня ведаю, але яны йгралі, а можа толькі адзін іграў, не палюцыпараўску. Ведаў, што чэрці няпрыгожыя, брыдкія, а вось ігра йхная чаравала мяне, і вабіла мо іншых таксама. Але аднойчы яны зьніклі з лазьні, мне самому давялося бачыць як пахмурнай раніцай яны кінулі лазьню. Ішлі да лесу шарэнгай, у чорнай вопратцы, і былі падобныя тады не да чартоў, а да людзей. Я ніколі не забудуся гэтай скратнай, люцыпараўскай паходні да лесу. Яны здаецца ня йшлі, а пілавалі паветра, іхныя крокіступні былі апілаваньні ад паветра. Я часам думаю: у Беларусі чэрці жылі ў сказках, ці мо ў душы кажнага Беларуса. Але пакуль вы дадумаецяся сказаць мне, што гэта толькі байкі-выдумкі, я пабаржджу наўмецiць вам, што чарты няпрыгожыя, але йграюць прываблiва. У іхнай ігры нейкі заўсёдны запавет, аднак які, люцыпараўскі, ці Боскі ня ведаю. Адно я ведаю, калі змагаюцца вялікія дзяржавы за маленькія — чарты супроць чартоў — дык вялікія ў люстэрку маленькамі бачаць. Яны трасуць, музычуць нядоляй іхнай каб толькі, як селянін, утоптвае, трасе піхцер — утрасьці да сваёй дзяржавы скубень тэй нядолі нашай.

Я зноў зірнуў на яго. Нашы позіркі сустрэліся. Я пазіхнуў.

— Ніколі не пазіхайце каля бяседніка. Падумае: чалавек дробнага розуму.

— А гэта не ваша справа навучаць мяне, — языкавата адказаў я.

— Даруйце мне! Не навучаю не прыгнебліваю.

Яму не варта ведаць як я магу спрачацца. Хай верыць — мне няма чаго адказаць. Гляджу на скрай летняга неба з вельмі рэдкімі хмарамі, яны, бадай расьцісьненыя азяровасьцяй узвышша. Ад гэтае азяровасьці, здавалася паверхня зямлі, кідала ўсё што магло быць каляровым і азначаным на ейнай зьверхні. Я не азіраў пярэстасьць прыроды воблікам мілага адчуваньня, а прычынай, якая прынукала спаткацца із вяскоўцам, і гэта апошняе найбольш авалодвала маім сэрцам ды думкамі. Я гутарыў з самім сабой. Дзеля паказу свае парадачнасьці мой знаёмы аднавясковец не перашкаджае мне. Няхай думае: я захапляюся ім, радуюся ягонай прысутнасьцяй у блізіне мяне! Тут ня цесна нам. Усё навокал нас — прасторліва,— думаў я. Ад рознага што пачуў, я каждую думку астаўляў сабой, часам закончаную, а часам тым самым ушчалопкам, каля якога праходзіў або мімавольна спатыкаў. Кажная складка зямлі, кажны куст ці заросьля аднолькавых дрэваў, была сьвядомасьцяй неабвешчанай мудрасьці, але, якая непатрабавала меры падобнасьці да чагосьці йншага, а прапаміна ла кароткую яснасьць прылукі, якая можа ніколі ня кончыцца ў здарэньнях нечаканых прычынаў ды ўражаньняў. Прычыны нараджаюць векавістасьць; аднак уражаньні нараджаюць прычыны-прычынаў ад рэчы й дзеяў, і заўсёды яны спыняюцца культурай, і апрача сымбалю, ніколі не пашлюць чалавека да вышэйшай меры адчуваньня, чымсьці ягонае існаваньне пакуль жыве. Яны скоўваюць яго мамэнтам патрэбы дзеля сучаснага, але ня будачага. Будачае — сьлед мінулага, і тым часам зьбежнасьць зь мінулым дзеля ненавіснага мінулага...

...мы ішлі па вазёрнаму узьбярэжжу. За кустом лазы, ляжала маладая жанчына, запальвалася пад сонцам. Грудзі выставіла сонячным праменьням неахінёнамі. Яна не пачула нас. Мінулі яе. Мы йшлі па тарфяным, высушаным узьбярэжжы, яно ня было чутнае пад ступкамі. Ейныя грудзі паўнатой вытаркнуты стаялі ў маіх вачох, бы жук з расталенамі сігавіцамі. Завярнуўшыся за сьцень высокіх вольхаў, вясковец спыніў мяне.

— Я далей не пайду з вамі,— і ён узяў мяне пад локаць, ягоныя вочы, бадай бяз рушныя коркавыя паплаўкі, глядзяць у мяне.— Адно скажэце — даруйце што не спадзеўна! Вы праўнік, мусіце ведаць: калі судзяць, дык судзяць па ўсіх артыкулах кодаксу, ці мо толькі па адным артыкулу?

— Вам дастанецца аднаго артыкулу адчуць, калі толькі асудзяць за што небудзь, адказваю я.

— Дзякую!

Мо здалося, ён рэзка адпускае мой падлокаць, і тады больш падступна, ублізіне мяне:

— Праз тыдзень я паеду ад вас, з маёй вёскі... Ах, не — пройдземся крыху!..

Мы пайшлі ў прасьцінку да вазёрнай гаці. Ён моўкнуў, моўкнуў і я, але думаў пра яго. Што за чалавек ён? Ці пасьпеў ён для нейкага грэху? Для нейкага дабра, ці зла? Ці ён пасьля некае дзяржаўнае дысцыпліны, пасьля трох нядзель жыцьця ў вёсцы на вольным паветры, неспадзеўна адчуў раптоўнасьць адзінотнасьці й няпрынукі, зажадаў пагаварыць пра ўсё існае, і пра ўсё, што толькі зналусна кранула яго дадумнасьцяй і даўшіпнасьцяй? Можа ён ніколі прад гэтым неназіраючы прыроды, але ўвесь адолены гурмой людзей па працы, ня думаў што ёсьць іншыя людзі, ёсьць іншыя працы іхныя — нечакана ўсьвятазораў у прыродзе, у людзях штосьці шчаснае, узьнікліваe ў штодзённым існаваньні? Я ня ведаю што адказаць самому сабе. Я сам маладзеў сярод спрадвечнага, шчырага дару летняга наваколья.

Ён зноў спыніў мяне. Навошта думаць пра яго? Ён сам думае пра сябе. На ягоным абліччы прыгожае маленства, і чароўны, крыху дзеля сябе ўстаёны круг у вачох. З пад маіх ног прыгнула невялікая люгашка. Крыху далей яна недарэчліва папаўзла ў густату моху. Я ўсьміхнуўся, усьміхнуўся й ён.

— Няхай жыве, — заўважае ён: — Ёй таксама люба свая дарога жыцьця.

— Але. Хай жыве, — адказваю я.

Мне зноў неякавата. Ён пэўна спакмечвае маю бянтэжнасьць. Заходзіць наўперад мне.

— Ня верце ў прыроду — душэце яе...

Ягонае аблічча зусім іншае. Яно сталася ціхае, як бывае пагода ў летні час у Беларусі. Толькі вусны роту краталіся. Мне абыякава да дрыготак ягоных вуснаў, але астаюся ветлівым, хоць, усё пачынае дакучаць.

— Адно папрашу ў вас, толькі адно. У наступную сьботу ад'ежджаю ад гэтуль. Зрабіце так, каб мяне з музыкамі праводзілі. Наша вёска славіцца добрым аркестрам... Мне дужа патрэбна гэта... Паабяцайце! Прашу вас!

...і я паабяцаў яму, а ні ледзь непамеркаваўшы, з чаго пачаць каб памагчы майму аднавяскоўцу.